Przegląd Wileński Sienkiewicza 21-6

Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 22 (47) | Вільня, 13-га кастрычніка 1934 г. | Год 2-гі.

## Далейшы вывад.

У папярэднім нумары „Роднага Краю“ парушана была вельмі важная справа абмену вязьняў, якія знаходзяцца ў сучасны мамэнт ці то на Салоўках, ці то ў лёхах савецкага ГПУ.

11-га кастрычніка «Кур'ер Віленьскі», паклікаючыся на беларускія крыніцы, падаў вестку аб арыщце ў Саветах грам. Б. Тарашкевіча. Ня ведаем, зразумела, наколькі гэная вестка адпавядае сапраўднасьці, бо-ж ужо пару тыдняў таму паведамляла аб гэтым Варшаўская прэса, але ані пацьверджаньня, ані запярэчаньня ў савецкай прэсе дагэтуль ня было.

Як-бы там ня было з грам. Тарашкевічам, мы змушаны яшчэ раз вярнуцца да гэтае тэмы, бо-ж у сувязі з процібеларускім курсам савецкай унутранай палітыкі, падобныя выпадкі стаяць за кардонам на парадку дня.

Можна сьмела сказаць, што кожная праява нацыянальнай сьвядомасьці сярод Беларусаў, выклікае жорсткую расправу з імі з боку камуністычнае ўлады.

Грамадзянін Б. Тарашкевіч, як б. старшыня Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, бязумоўна, ідэолёгічна зьвязан з сваім Ц. К., бо-ж інакш нельга сабе ўявіць той працы, якая вялася гэтымі людзьмі сярод шырокіх масаў Заходняе Беларусі, а што ўвесь Ц. К. Грамады ў сучасны мамэнт ся зіць за кратамі ў «камуністы[д]ным раю» аб гэтым шырак[ч] ведаем і з савецкае прэсы.[а]

Тое, што сталася з грам. Б. Тарашкевічам і яго найбліжэйшымі палітычнымі супрацоўнікамі, вымагае больш уважлівага разгляду.

Тут, у Польшчы, гэтым людзям былі пастаўлены закід імкненьня адарваньня Заходняе Беларусі й далучэньня яе да Саветаў, там — у Саветах тых-жа самых людзей абвінавачваюць якраз у процілежным—у акцыі супроць Саветаў на карысьць Польшчы.

Вытварылася дзікая й злосная недарэчнасьць, каля якое, зразумела, нельга перайсьці міма ані той, ані другой старане, а тым больш нам, кроўна зьвязаным з гэтымі ахвярамі ўчарашніх ворагаў, а сёньняшніх саюзьнікаў.

**Што Грамада была організацыяй не камуністычнай, аб гэтым ужо ведае на‘т польская прокуратура,** якая яшчэ так нядаўна горача падтрымлівала адваротную тэзу; але што Грамада ў свой час (пад канец 1926 год) была значна апанавана камуністамі — гэта таксама не зьяўляецца сэкрэтам.

Саветам, тагачасным ворагам Польшчы, у 1926 годзе якраз хадзіла аб тое, каб з масавае легальнае організацыі стварыць аружжа для барацьбы з Польшчаю, шляхам падкопваньня яе дзяржаўных устояў.

Тагачасная палітыка польскага Ўраду ў адносінях да беларусаў якраз спрыяла разьвіцьцю гэнай савецкай акцыі сярод менш усьведамленых беларусаў і, як ведама, прывяла да катастрофы.

Ці поўную адказнасьці за гэтыя падзеі паносяць кіраўнікі Грамады? Бязумоўна — не, бо-ж яны былі звычайнымі грамадзянамі і, зразумела, ня мелі ў сваіх руках ані той улады, ані той магчымасьці, якую мелі Ўрады Польшчы і Саветаў. Проціставіцца палітычнай барацьбе дзьвёх дзяржаваў было немагчыма, і дзеля гэтага сталася тое, што павінна было ў такіх выпадках стацца—кіраўнікі Грамады апынуліся паміж молатам і кавальняй.

Праўдзівасьць вышэй падаваний нашай тэзы цяпер хіба-ж ясна для кожнага, але ня менш яснай павінна быць і сучаснае наше становішча. Абставіны кардынальна зьмяніліся: учарашнія ворагі сталіся саюзьнікамі і дзеля гэтага няма нічога дзіўнага ў тым, што нядаўняе аружжа стала ня толькі не патрэбным, а на‘т нявыгодным — сталася цяжарам, якога хочуць пазбыцца. Мы гэта добра разумеем. Але й у гэтым выпадку абавязвае аднак абодвы бакі хоць-бы элемэнтарная форма прызвітасьці, калі не справядлівасьці. Грамадоўцы для Саветаў сталіся цяжарам, якога яны хочуць пазбыцца. Але-ж для гэтага існуе болш прызваіты спосаб, чымсь... лёхі Г. П. У. і Салоўкі, а адным з такіх прызваітых і вельмі лёгкіх спосабаў з'яўляецца якраз той, якога мы дамагаемся — **вынінуць іх назад нам, на іх бацькаўшчыну.**

Як гэта. зрабіць, савецкі ўрад добра ведае, бо-ж штодзень сотнямі перакідае праз зялёныя граніцы ўсіх суседніх і нясуседніх дзяржаваў сваіх агентаў. Мы-ж з свайго боку падымаемся забясьпечыць сваім тавырышом абсолютную свабоду з боку Польскага Ураду.

Зразумела, што такога людзкога жэсту ад прадстаўнікоў »соцыялістычнага« Ураду мы не спадзяёмся і дзеля гэтага апэлюем да процілежнага лягеру, да прадстаўнікоў „буржуазнага“ Ураду — да Ураду Польскае Дзяржавы. Апэлюем, як грамадзяне, якія чэсна выконваюць усе свае абавязкі адносна дзяржавы і гэтым самым павінны карыстацца з поўні правоў.

Мы маем права дамагацца, каб пры вырашэньні справы абмену палітычных вязьняў з Саветамі нашыя пажаданьні Польскім Урадам былі ўзяты пад увагу.

Яшчэ нядаўна Саветы дамагаліся ад Польскага Ураду выдаць ім Тарашкевіча, Дварчаніна, Гаўрыліка і інш., у сучасны мамэнт на просьбу і дамаганьні ўсяго беларускага грамадзянства Польскі Ўрад павінен зажадаць ад Саветаў іх звароту. Разьвязка будзе й людзкой і лёгкай.

Палітычна ані Польшча, ані Саветы ў грамадоўцах у сучасны мамэнт не зацікаўлены—яны сталіся не патрэбнымі, а для Саветаў на‘т шкоднымі—дык аддайце іх нам — вярнеце на бацькаўшчыну не дзеля нейкае палітыкі, а хоцьбы толькі для культурнае працы сярод свайго народу. А Беларускі Народ патрапіць належна ацаніць гэта. *Эра.*

## Забойства югаслявянскага караля Александра і францускага міністра заграмічных спраў Барту.

У аўторак, 9 кастрычніка, папаўдні, у Марсыліі нявыкрытыя дагэтуль спраўцы забілі югаславянскага караля і францускага міністра Барту. Забойства адбылася падчас урачыстасьцяў, якія адбываліся ў Марсыліі ў сувязі з прыездам караля Александра ў Францыю. Каля гадз. 4 мінут 10 кароль у таварыстве міністра Барту са сьвітай праяжджаў вуліцамі горада. У пэўным моманце ў кірунку каралеўскага павозу пала 30 стрэлаў з рэвольвэраў. Тры кулі папалі ў караля Александра. У хуткім часе кароль і францускі міністар памёрлі. Ёсьць яшчэ некалькі ахвяр, у якія прыпадкова трапілі кулі. Аднаго з забойцаў на месцы праступленьня злінчаваў натоўп. Усталена яго югаславянская дзяржаўная прыналежнасьць. Забойства гэтае носіць яскрава-палітычны характар.

Заграпічная прэса пароўнывае гэтае палітычнае забойства ў сваім трагічным значэньні з выпадкамі ў Сараеве ў 1914 г.

Варункі, у якіх адбылося забойства, а такжа сьмерць міністра Барту, комэнтуюцца ў ангельскіх палітычных колах, як вялікі ўдар для прэстыжу францускага ўраду.

У сувязі з гэтым прадбачыцца крызыс францускага ўраду.

*тт.*

## Рэвалюцыя ў Іспаніі.

У Іспаніі на тым тыдні стварыўся новы Урад, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі цэнтравых і правых партыяў. Гэта выклікала абурэньне работнікаў, якія пастанавілі прыступіць да агульнай забастоўкі, якая і была агалошана ў сталіцы краю Мадрыдзе 5-га кастрычніка. Работнікі іншых гарадоў і раёнаў таксама забаставалі, прычым у шмат якіх мясцох дайшло да крывавых сутычак бастуючых з паліцыяй і войскам. У некаторых мясцох адбываліся сапраўдныя баі. Найбольшыя забурэньні выбухнулі ў паўночнай Іспаніі, у Астурыі, дзе шырака разбудавана горная прамысловасьць. Бастуючыя ў гэтым раёне мелі аружжа і нават гарматы, і да гэтага часу там адбываюцца баі.

У іншай мясцовасьці, у паўночна-ўсходняй Каталёніі, была абвешчана мінулай суботай незалежная рэспубліка. Але праіснавала яна ўсяго 11 гадзін, бо па загаду цэнтральнага мадрыдзкага ўраду войска ўзяло штурмам палац, дзе знайходзіўся ўрад новай рэспублікі. Сябры ўраду былі арыштаваны і каталёнская рэспубліка перастала існаваць. Гэта было ў мінулую нядзелю раніцай. Апошнімі днямі забастовачны рух а разам з ім і крывавыя сутычкі бастуючых з паліцыяй і войскам перакінуліся ў паўдзённую частку краю. З усяго відаць, што сучасны ўрад Іспаніі пераможа, маючы на сваім баку войска, але да поўнага супакою ў Іспаніі ня хутка дойдзе. Як падаюць газэты, да гэтага часу забіта звыш 500 чалавек і звыш 2000 чалавек ранена. Пэўне-ж гэныя лічбы павялічацца; адначасна тысячы людзей арыштавана і пасаджана ў вастрогі. Усё гэта разам узятае, зразумела, яшчэ больш завострыць тое нездаваленьне ў масах, якое і выклікала такія крывавыя падзеі.

*П.*

**Пашырайце нашу газэту.**

# Рэфэрат аб Менску.

Грамадзянін М. Клім — айчым Ф. Аляхновіча два месяцы назад прыбыў з Менску да Вільні. Як колькігадовы жыхар савецкага Менску ён шмат чаго цікавага ведае пра сталіцу Савецкае Беларусі. 5-га гэтага кастрычніка ў памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Вільні гр. Клім прачытаў рэфэрат аб Менску і яго цяперашняй гарадзкой гаспадарцы.

Гарадзкая Менская Рада (горсовет) загадвае гаспадаркаю ня толькі самога гораду Менску, але і землямі ў 10 верставым радыюсе вакол гораду.

Менск налічвае цяпер 130.000 жыхароў. Адчуваецца, як мы сказалі-б панашаму, недахоп кватэраў, а па бальшавіцку — недахоп *жилплощади*, г. зн. плошчы для памешканьняў.

Менскія жыхары пражываюць у пакоях, а не ў кватэрах: на кожную асобу вызначана ўсяго па 2 квадратныя сажні плошчы падлогі. Сам аўтар рэфэрату меў пакой з плошчаю падлогі ў 5,2 кв. сажняў на сябе і на жонку і яго ўлады выселілі ў меншае памешканьне, дакучаючы перад гэтым рознымі спосабамі: то пасялялі ў яго ашчэ аднаго жыхара, то загадвалі перагарадзіць памешканьне, аж пакуль ня змусілі высяліцца ў меншае.

Навуковыя работнікі (прафэсура) дастаюць дадатковыя 2 квадратныя сажні плошчы памешканьня.

Гарадзкія будынкі вартасьцю больш, як 10 тысяч рублёў знацыяналізованы і змуніцыпалізованы, г. зн. належаць да дзяржавы (большае будынкі) і да гораду.

Дамы вартасьцю да 10 тысяч рублёў пакінуты іх уласнікам разам з гародчыкамі пры іх.

Гарадзкая зямля, як у самым горадзе, так і ў 10 верставой зоне за горадам здаецца ў арэнду жыхаром з тэндэнцыяй здаваць яе цэлым установам з мэтаю колектыўнага карыстаньня. Але паміж самымі нават дробнымі арэндатарамі саду пры якім-небудзь доме заўсёды выходзілі непаразуменьні пры падзеле прадуктаў. Дробнымі дзялянкамі асобныя сем'і ахватней бяруць гарадзкія землі ў арэнду і гэты спосаб карыстаньня найчасьцей праўляецца. Памешканьнямі і землямі загадваюць г. зв „*жакты*“, іх у Менску 27, па ліку раёнаў. Спробы падзелу ямельнае прадукцыі паводле ліку „трудаднёў“, патрачаных на апрацоўку зямлі кожным асобным арэндатарам, таксама не давялі да ладу і, як правіла, землі арэндуюцца асобнымі дзялянкамі (вучасткамі).

Горад за час войнаў моцна пацярпеў і бальшавіком прышлося падумаць аб рэмонце дамоў, якога ніхто не рабіў за ваеннарэвалюцыйны час.

Перад першаю „пяцілеткаю“ у эпоху г зв. НЭП'у (1923—1927 гг.) бальшавікі спрытна ашукалі былых домаўласьнікаў, нібы вяртаючы ім дамы, калі ўласьнікі гэтыя пачнуць іх рэмантаваць. На рэмонт выдаваліся нават пазыкі ўласьнікам з заложанага Камунальнага Банку. Пазыкі былі ад 2 да 4 тысяч рублёў. У часе НЭП,у жыцьцё ў горадзе ажыло, пачалі будавацца прыватныя дамы на 2 кватэры на пазыкі з таго-ж Камунальнага Банку. Дзеля таго, што ў вёсках пакідалі „кулаком“ (заможнейшым сялянам) усяго 10 дзесяцін зямлі, рэшту яе адбіраючы ад іх, заўважаўся ў часе ПЭН'у вялікі наплыў у горад вясковага насяленьня: „кулакі“ кідалі гаспадаркі і будавалі ў горадзе дамкі.

Скончылася ўсё гэта, як ведама, „разгромам спэкулянтаў“ пасьля НЭП'у, „кулакі“ і ўласьнікі дробнага гандлю ссылаліся ў Сыбір ды на Салоўкі. Дамы ізноў былі знацыяналізованы і змуніцыпалізованы.

Пачалася ўрадовая будова г. зв. стандартных дамоў (з дзерава) для студэнства і наагул для вучнёўскае моладзі і будова іншых вялікіх будынкаў для розных урадовых установаў.

Гэтак у 1925 годзе пабудованы быў унівэрсытэцкі гарадок каля вакзалу б. Лібава—Роменскае чугункі. Пастаўлены вялізарны „Дом Ураду“ для ўсіх камісарыятаў ў 1930 годзе. Будынак гэты мае 9 паверхаў, плошча падлогі ў ім 200.000 кв. мэтраў. Пабудована клініка на Камароўцы, лазьня (3-я ў горадзе) на Ляхаўцы. Недахоп лазьняў адчуваецца вельмі востра, таксама, як і недахоп мыла, замест якога ўжываецца г. зв. „мыльная паста“.

Замест даўнейшае конкі па горадзе ходзіць электрычны трамвай, але функцыянаваньне яго даволі няспраўнае; ён вельмі часта затрымліваецца з прычыны недахопу электрычнага току.

З 1932 году асьветлены электрычнасьцю акраіны гораду. Але электрычнасьць гэтая сьвеціць цьмяна і разы 3—4 за вечар гасьне. У цэнтры, дзе разьмяшчаюцца розныя ўрадовыя ўстановы ды жывуць савецкія саноўнікі электрычнасьць ня гасьне. Як прычыну няспраўнасьцяй улады заўсёды называюць „шкоднікаў“. Два інжынеры былі расстрэлены, а сямёх павысылалі за шкодніцтва.

Быў, напр., выпадак, што ў часе важнае апэрацыі, робленай вядомым хірургам д-рам Шапірам, раптам пагасла электрычнасьць і доктар памёр ад разрыву сэрца, а пацыент таксама загінуў. Спэцыяльнасьць д-ра Шапіры так моцна бралася пад увагу бальшавікамі, што яму пазволена было мець сваю больніцу.

На пытаньні сабраных гр. Клім даў таксама цікавыя адказы.

Нехта пытаецца, ці праўда, што пабудованы ў Менску Дом Селяніна.

— Будаваўся гэткі дом, — пачуўся адказ, — але вы думаеце, што калі ён называўся домам селяніна, дык там быў які-небудзь селянін? Цяпер у гэтым доме цэнтральны камітэт Камуністычнае Партыі.

Архірэйскі і Юбілейны дамы разбудованы і цяпер там будынак Чырвонае арміі.

Будынак Жаноцкага манастыра на Прэабражэнскай вуліцы заняты Саюзам Коопэрацыі.

У былой Сынагозе — Жыдоўскі Тэатр.

У чырвоным касьцёле на Захараўскай вуліцы, збудованым калісь коштам абшарніка Вайніловіча, месьціцца цяпер Польскі Тэатр.

Каталіцкі Катэдральны Касьцёл існуе, бо недалёка ад яго месьціцца польскі консулят, дзе даволі шмат служачых-каталікоў, якія ходзяць маліцца ў гэты касьцёл.

Праваслаўны Катэдральны Сабор абернены бальшавікамі, пасьля разбудоўкі яго, у элеватар (вялікі магазын збожжа, якое звозіцца сюды з колгасаў і совгасаў кожны год 1-га кастрычніка).

Разбудованы б. завод Янсона, які завецца цяпер заводам імя Варашылова.

Пабудована бальшавікамі ў Менску вялікая галянтэрэйная фабрыка.

Кожны савецкі грамадзянін 5 дзён працуе, а ў шосты (выхадны) дзень адпачывае, што адбываецца вельмі „ўмоўна“, бо заўсёды знойдуцца якія-небудзь „ударныя“ работы, як расчыстка сьнегу ў часе зімовых завеяў, зборы з палёў летам і інш. Існуе агульная „трудавая“ павіннасьць, ад якой не звальняецца нават і студэнская моладзь.

Студэнты прымаюцца ў ВУЗ,ы (вышэйшыя школы) паводле г. зв. „кантрактацыі“ Студэнт павінен падпісаць пэўны кантракт, паступаючы ў той ці іншы ВУЗ (парасейску „ВЫСШЕЕ УЧЕБНОЕ ЗАВЕДЕНИЕ“) і мусіць выпаўняць усё, чаго зажадае ад яго ўлада, згодна з падпісаным кантрактам. І ня дзіва, што летам у часе палявых збораў студэнская моладзь масамі скіроўваецца на палявыя работы ў ударным парадку.

Грамадзянін Клім дэкляраваў мець яшчэ некалькі гутарак аб жыцьці ў Менску.

Сабраныя шчыра дзякавалі г-ну Кліму за яго рэфэрат і засыпалі яго пытаньнямі рознага роду, хоць гэтым разам ён прасіў абмежвацца толькі аднэю камунальнаю гаспадаркаю Менску.

*Слухач.*

# Рэфлексыі з прачытанага.

На Палесьсі, як ведама, зазубляюцца два этнографічныя абшары: беларускі і ўкраінскі. Граніцу між гэтымі абшарамі правесьці цяжка. Сярод вучоных у гэтым няма згоды. На падставе вынікаў навукі ў даным пытаньні, мы можам сказаць, што: папершае, граніцы між беларускім і украінскім этнографічным абшарам сьціслa правесьці нельга, што яна зьмяняецца ў залежнасьці ад напяцьця і дзеяньня беларускіх ці ўкраінскіх культурна-палітычных уплываў і падругое, што большая частка Палесься гэта ўсё-ж такі *этнографічны беларускі абшар.* Інакш аднак да гэтае справы аднёсься палескі ваявода Костак-Бернацкі. Ён, узяўшы пад увагу нізкі, культурны стан жыхара Палесься, малую нацыянальную сьведамасьць паляшука, уважае, што Палесьсе не павінна быць ані беларускае, ані украінскае, *а толькі і выключна польскае.*

Як гэты курс выглядае ў практыцы, гэта нам ілюструе „Бунт Млодых“ ад 20. VIII. 1934 № 14 (63). Гаворачы аб рабоце КПЗБ на Палесьсі, і адзначаючы, што камуністы вялі работу ў двух кірунках: нацыянальна-беларускім і сацыяльным кажа, што сяньня

# Настулька.

*(Расказ)*

(Гл. № 21 „Р. Кр.“).

Пацягнуліся доўгія, шэрыя дні ў арыштце. Работы на кухні было даволі, але затое і голаду поўнага ня было. Кармілі блага. Грачышная або прасяная каша, раніцаю і ўвечары хутчэй падобная да рэдзенькага крупніку, посная, ныткая, штодзень тры разы, а да гэтага 150 грамаў чорнага, нясьвежага хлеба, які мужчыны-арыштанты называлі цэглаю.

Недзе за сьцяною, мусі ў канцэлярыі, кожны дзень іграла радыё, якое часам, у нейкія бальшавіцкія ўрачыстасьці, раўло гучна на ўсю ваколіцу.

Дзяўчат, абедзьвюх разам, выпушчалі штодня на цесны, абгароджаны калючым дротам, падворак пад канвоем на спацыр, а ў кухні, пры рабоце, за імі сачыла ўсё тая-ж тоўстая баба.

З адчыненых фортачак вокнаў да іх вушэй часта далятала на спацыры просьба-пытаньне:

— Таварышкі, а *севодня* кашкі *прыбавите*?

Спачуваючы няшчасным, дзяўчаты не шкадавалі ім поснае казённае кашы.

Аднаго разу пачулі яны гучны голас у радыё:

— Таварышы-слухачы! Зараз будзе вітаць зьезд калхозьнікаў старшыня *совнаркому* Беларусі таварыш Голы-Дзед. Увага!

— Таварышы! — пачаў казаць Голы-Дзед, — маё жыцьцё з малых гадоў было працоўнае: я, таварышы, восем гадоў пасьвіў у панскім двары жывёлу — спачатку авечкі тры гады, а пасьля рагатае быдла цэлых пяць гадоў. У мяне не абы які працоўны стаж і жыцьцё калхозьнікаў мне знаёмае больш, як родных братоў...

Далей Настулька не хацела слухаць пра гэткі стаж камісара. У галаве ў яе застукала цяжкая, як доля беларуса, думка.

„Вось дык ёсьць чым пахваліцца, — думала Настулька, — а якое сымболічнае прозьвішча гэтага савецкага міністра: Голы-Дзед! Сам чорт хітрэй ня выдумаў-бы: голы народ і на чале яго Голы-Дзед. Вун праз шыбы перакрыжованага дошкамі вакна відаць абадраных савецкіх сялян, у неданошаных яшчэ з вялікае вайны маскоўскіх *папахах* і гэта летам, у гарачыню“...

На другім тыдні адбываньня гэтага, невядома як доўгага, арышту Настулька спыталася, ці можна дастаць якія кніжкі, каб у вольны час пачытаць. Ей далі расейскую палітграмату.

„*Социализм есть советская власть плюс электрификация*“, — вычытала Настулька „мудрую“ формулу Леніна.

„*Каждая кухарка должна уметь управлять государством*“...

— „Вось навіна, — разважалася Настулька, — дарма ламалі галаву над тым, што такое социялізм, лепшыя мудрацы гэтае школы: Бэбэлі ды Каутскія ў Нямеччыне, Баўэры ў Аўстрыі, Вандэрвэльды ў Бэльгіі або французскія Жорэсы, тут табе ўсё ясна, як на далоні: завядзі толькі савецкую ўладу, дадай электрыфікацыю ды можа яшчэ гэту штодзенную посную кашу і выйдзе соцыялізм. А тады нават і наша тоўстая апякунка з гэтага местачковага арышту патрапіць кіраваць дзяржаваю“..

Канец арышту аднак-жа надыйшоў.

Пэўнае раніцы, праз цэлы месяц, як нашыя дзяўчаты перабраліся за граніцу, іхная даглядчыца адчыніла дзьверы і сказала:

— Лярыса Ваўчок, зьбірайцеся с *вещами*, ды ня бойцеся, мілая, па вас прыехаў брат, забярэ вас на Урал.

— А як са мною? — упаўшым голасам спыталася Настулька.

— Паедзеце назад, ня трэба нам белагвардзейскага насеньня...

— Як-то назад?...

— А так... у сваю панскую Польшчу...

— Калі?

— А можа і сяньня ўвечары.

Лярыса спакавала свае невялічкія рэчы, пацалавалася на разьвітаньне з Настулькаю. Абедзьве дзяўчыны заплакалі.

— Пішы да мяне .. хай брат напіша, — прасіла Настулька.

— Добра, сястронка, — адказала Лярыса, зьбіраючыся выходзіць.

— Вось *нежности*, — заўважыла тоўстая баба, — не абрыдла вам тут? Хутчэй!

Настулька засталася адна, кінулася на нары і доўга не магла стрымацца ад сьлёз. Не таму, што яна тут зусім адна, не таму нават, што прышлося разьвітацца з Лярысаю, а ўжо таму, што на грэшнай зямлі ёй як быццам і месца няма, што родная беларуская зямля зрабілася для яе мачахаю. Драмае ў чорным сьне нявольнік-народ і Дзед-Голы пасьвіствае над яго галавою сваім цівунскім бізуном. Дзе ўзяць сілы, каб вырваць народ свой з гэтага чорнага сну, каб вочы яго ўбачылі ясную волю і сэрцам усім палюбілі яе?!...

ўсё гэта прыціхла. Спрычынілася да гэтага „нармалізацыя польска-савецкіх адносін і ўвядзеньне ў жыцьцё новага і рашучага курсу палітыкі ў спосаб востры і консэквэнтны“. А далей гэты публіцыст падае наступны абразок.

„Мы ігралі найзвычайней у сьвеце ў карты, снуючы ў перарывах розныя дагадкі, што да эвэнтуальных забойцаў мін. Перацкага і абставін забойства. Не далі нам скончыць партыі, бо прыйшла якаясьці важная і пекельна доўгая телефонаграма. Між іншым была там закранута справа прытрымліваньня ўсіх няпэўных элемэнтаў з баёва-радыкальных арганізацыяў. Паказалася аднак, што няма так вельмі каго, бо эндэкаў у нас няма, украінцаў таксама — хіба таго аднаго там і там, — а з камуністых тыя, што павінны сядзець, ужо сядзяць. Але як мус, то мус. На другі дзень вечарам каля 11 мы вярталіся дамоў Перад намі перамашараваў малы аддзел, зложаны з трох паліцыянтаў і пяці пацыентаў, у сарочках, з накінутымі кубракамі, босыя з клумкамі ў руцэ. Дык гэта ёсьць тыя антыдзяржаўныя элемэнты, якія яшчэ „не сядзяць“. Дык, гэта ты, Валодзя Паўлюк, мачаў свае пальцы ў *тамтой* крыві? Падумай, *тамтое* сталася ў Варшаве, а *цябе* знайшлі ў глыбокім Палесьсі, як голку у мяшку зярна і вядуць. Ці ён ведаў, што гэта з прычыны *тамтое*? У камісіі паўстала лёгкае замяшаньне Шэсьць скончаных кляс беларускае гімназіі ў Вільні, ходзіць да сёмай. Судом караны. Калі? Чатыры гады таму. Параграф? Палітычны, беларускі дзеяч. Хлопец худы, далікатны, з якімісьці затуманенымі вачыма. Перайшоў. Некаторыя, надыйшоўшыя пазьней, падавалі выразна і ясна мову і нацыянальнасьць беларускую. Усе былі з аднэй вёскі Засімы. Войт чырванеў і пеніўся, што спаткаў яго такі дысгонар у вачах вышэйшых уладаў. Запісаў іх прозьвішчы. Хлапец, калега, чакай! Пагаворым сабе. Дзе ён ёсьць? Прыкра мне за сябе і за войта. Вось гэта элемэнты проціўстаўляючыся. Далей гэты самы публіцыст снуе разважаньні аб тым, чаму некаторыя польскія правінцыі на захадзе ўдалося немцам цалком згерманізаваць, як нпр. Мазуры, якія для Польшчы страчаны на заўсёды. Кажа ён, што да Палесься застасавана такую палітыку, якая на ўсходнім фронце дала Мазурэнлянд. Сапраўды-ж дарэмныя высілкі ваеводы Костка-Бернацкага, будучыня Палесься у сэрцы і ў руках Валодзяў Паўлюкоў і яны самавызначаць Палесьсе а ня цёмны элемэнт, на які ўсе надзеі ўскладаюць тыя, якія хочуць, каб Палесьсе было выключна польскім.

—·—

„У расейскім заборы на беларуска-літоўскіх землях расейскі ўрад цэлым вёскам з чыста польскім насельніцтвам прымусова накінуў праваслаў'е. Са зьменай абраду з часам прышла зьмена дзяржаўнай прыналежнасьці. Паляк стаўся Беларусам. Цяпер, калі мы вольныя і йзноў пануем над гэтымі краямі, трэба гэтых палякаў усьведаміць і прылучыць да польскага пня. Для гэтай мэты трэба залажыць у Вільні польскую праваслаўную сэмінарыю, для праваслаўных Ксяндзоў Палякаў. Трэба таксама праваслаўную літургію з славянскае мовы ператлумачыць на старапольскую. Такім чынам праваслаўныя палякі будуць слухаць сьвятую імшу ў польскай мове, г. зн. у роднай мове. Такім чынам узмоцнім польскую нацыянальнасьць на крэсах. Хто ўзмацняе на ўсходніх і паўночных крэсах чужыя нам плямёны, той тым самым аслабляе польскую дзяржаву, бо імкнецца да адлучэньня ад Польшчы ўсходніх ваяводзтваў“ —

Напэўна ніхто не дадумаўся-б, так лёгка пазбавіцца беларусаў, як гэта прапунуе п. А. Фуровіч у сваёй кніжцы „Дом духаў“. Ёсьць там яшчэ і лепшыя рэцэпты, проста можна сказаць радыкальныя, ну хоць-бы гэтакі і „Мы, супольна жывучых з намі чужынцаў (obcoplemieńców) баімося. Ганьба і сорам баязьлівым. Страх ёсьць прадвесьнікам сьмерці, а ты Паляк яшчэ жыць хочаш і панаваць у-ва ўласным краі. Ня бойся тады і бій сьмела тваіх госьцяў“. Падобных і яшчэ цікавейшых рэцэптаў на тое, каб Польшча сталася магутнай, у кніжцы поўна. Для лепшага зразуменьня мушу высьніць, што аўтар уважае за гаспадароў Польшчы выключна Палякаў лехіцкага пляменьня а ўсіх іншых называе гасьцьмі, якіх трэба — „біць“.

Ясна, што ў ненармальнасьці аўтара сумлевацца нельга. Але мне здаецца, што ёсьць у нас такія адміністратары, якія натхненьні для сваіх адміністрацыйных намераў падсьвядома чэрпаюць у такіх людзей, як п. Фуровіч.

Ёсьць яшчэ ў-ва ўсім гэтым адна рэч не бяз пікантнасьці. Рабіў карэкту гэтае кніжкі і нават даў моральную апробату на яе выданьне п. Францішак Грышкевіч. Францішка Грышкевіча знаем як „сьпевака“ „Весновых Мэлодый“ а пасьля як „незалежнага марксыста“, якога ня так даўна з вялікім апляўзам на сваіх бачынах вітала благой памяці „Беларуская Газэта“. Цяпер Грышкевіч выступіў у новай ролі, ці яна яму да твару, не зьбіраюся судзіць.

Можна было аднак спадзявацца, што калі Грышкевіч выбачыць аўтару яго экстэрмінацыйнае становішча адносна беларусаў з тых ці іншых повадаў, то прынамся павінен быў адвесьці аўтара ад зьмяшчэньня у кніжцы тых ідыётызмаў, якіх там так шмат.

Апошнія „Мэлёдыі“ Фр. Грышкевіча ня зусім „цікавыя“. Але на тое ёсьць „незалежны марксызм“, каб над усім перайсьці да парадку, каб усё ўмець пагадзіць і вытлумачыць. Бедны Маркс, ці ён спадзяваўся такіх вучняў. *із.*

# З газэт.

Швайцарская газэта „Basler Nachrichten“ зьмясьціла статыстычныя дадзеныя, паводле якіх у 1933 г. зьгінула з голаду 2.400.000 людзей, а 1.200.000 пакончыла жыцьцё самагубствам, бачучы надходзячы голад. Дадзеныя гэныя не абыймаюць Савецкай Расеі, а таму колькасьць ахвяр голаду ў сапраўднасьці будзе яшчэ вялікшай. Цікава, што адначасна з гэтым у імя „стабілізацыі цэнаў“ было зьнішчана 568 тысяч вагонаў збожа, 144 тысячы вагонаў рысу, 267 тысяч мяшкоў кавы, 2 з паловай мільёны кілягр амаў цукру. Апрача гэтага спалена 432 тысячы вагонаў збожжа, непшта 2 мільёны сьвежага і кансэрвававанага мяса. Па падлічэньням гэтай змарнаванай ежы хапіла-бы для 70% зьгінуўшых у мін. годзе ад голаду.

# З царкоўнага жыцьця.

*Аб назначаньні „благачынных“.* Разьвіцьцё і поступ царкоўнага жыцьця ў паасобных прыходах, асабліва, ў вясковых, залежыць у першую чаргу ад асобы благачыннага, ад яго здольнасьцяў і энэргіі. Бо калі пасад благачыннага атрымлівае асоба, карыстаючаяся толькі пратэкцыямі, то пераважна ўсё „благачынства“ гэткае асобы зводзіцца да перапісываньня і распаўсюджываньня кансысторскіх загадаў. Калі-ж благачынным зьяўляецца адзінка энэргічная, маючая прытым вышэйшую тэолёгічную веду, то, бязумоўна, атрымаем з гэтага карысьць ня толькі для справы кіраваньня „благачыньнем“, але і для дабра Царквы наагул.

У віленскай эпархіі спаткаем благачынных вельмі дзейных і здольных, але спаткаем і, гэтых большасьць, не адпавядаючых свайму назначэньню людзей бяз вышэйшае асьветы, малаздольных і зусім бязьдзейных. Тлумачыцца гэта тым што пасьля сусьветнае вайны, прыбыла ў віл. эпархію шмат такіх асоб, якія тут з недахопу іншых заняткаў парабіліся сьвяшчэньнікамі, не маючымі да гэтага ніякага прыгатаваньня ані тым больш прызваньня. Некаторыя з іх з часам робяцца благачыннымі і гэта толькі дзякуючы іх умеламу заавансаваньню ў так модным сяньня русафільстве. Словам, пры атрымліваньні пасаду благачыннага адыгрывала галоўную ролю не ўвага на дабро Царквы, а бадай выключна „благонадежность в истиннорусскости“. Ясна, такі падыход да справы назначэньня благачынных зьяўляецца анармальным, вымагаючым неадкладнага перагляду. Сяньня ўжо маем дзесяткі маладых сьвяшчэньнікаў, скончыўшых студыюм Праваслаўнае Тэолёгіі ў Варшаве, людзей вышэйшых з беларускае вёскі а таму з ёю зьвязаных, людзей дзейных, бо ідучых працаваць на ніву царкоўную з маладым запалам і энэргіяй. Вось-жа пры назначаньні благачынных з гэтых сьвяшчэньнікаў якраз і трэба скарыстаць.

Дамаганьні беларусаў адносна справы правядзеньня беларусізацыі Царквы зьяўляюцца не антыцаркоўнымі выступленьнямі, але выключна будуючымі здаровае царкоўна-праваслаўнае жыцьцё народу. Усе гэныя дамаганьні зводзяцца да таго, каб як наймацней зьвязаць народ з духаўніком, а гэтым самым і з царквой. У гэтай плошчы павінна быць разьвязана і справа назначаньня благачынных. Маладых акадэмікаў-беларусаў сяньня маем ужо даволі шмат, а знача патрэбна толькі добрая воля і об'ектыўнае разуменьне справы з боку эпархіяльнага кіраўніцтва. *В. Пінскі.*

# З правінцыі.

— *Залеская*, гміна Дзісьн. пав. Ці то ў гутарках, ці то ў газэтах вельмі часта можна спаткаць пагляд на беларускую вёску, як на цёмную, адсталую, як на нейкі іншы асаблівы сьвет. Так пра яе пішуць ня толькі польскія, але і свае-ж беларускія газэты. Можа гэта і ня зусім так, можа тыя,

---

Пад вечар Настульку забралі з арышту назад на вартоўню пры граніцы. Калі зайшло сонца, дык чырвонаармеец павёў яе на граніцу.

— Калі прайдзеце праз кусты, пабачыце агоньчык на тым баку. Трэба скіравацца крыху ўправа, каб без перашкодаў выбрацца на той бок. Толькі ня здумайце вяртацца да нас, бо перадамо проста ў рукі польскіх пагранічнікаў.

Настулька спакойна слухала гэтае непатрэбнае, як ёй здавалася. рады.

— Тут мая помач вам скончана, — сказаў на разьвітаньне чырвонаармеец,—шчасьлівай дарогі!

— Дзякую, — ціха адказала Настулька.

Яна ўвайшла ў густыя кусты. Было душна. З захаду паўзла хмара. Загрымеў гром. Хутка маланкі пачалі гуляць па небе над самаю галавою. Лінуў дождж, спачатку рэдкі і буйны, вялікімі халоднымі каплямі, праз мінуту ён абярнуўся ў навальніцу, забубнеў па кустох, адскокваючы ад мокрага зялёнага лісьцьця драбнюткім вадзяным пылам.

Настулька не зьвяртала ўвагі на грозную ігру нябесных стыхіяў; трэ' было сьпяшацца ісьці на захад, у той бок, дзе далёка—далёка яшчэ стаяла бацькаўская хата, якую яна гэтак неразважна пакінула месяц назад, дзе з радасьцю сустрэне яе зьбедаваная маці ды можа ня вельмі строга асудзіць яе падарожу бацька.

Дождж. Вартаўнікі таксама людзі — хаваюцца, дзе могуць. Цемра пагусьцела. Гррр-у-у-ух! Недзе зусім блізка ўдарыў Пярун... Але нічога. Хмара праляціць, зачырванее ізноў неба ў тым месцы, куды схавалася сонца—будзе ведама, куды ісьці.

Аднак-жа дождж ня сьціхаў. І што гэта за кусты такія бясконцыя? Піраць па мокрай зусім вопратцы, па руках, па валасох, па твары, як быццам хочуць затрымаць тут, сярод буры, грому і чорнае цемры, часта прарэзванай сьвятлом нязьлічаных маланак.

Ясныя дзявочыя вочы Настулькі глядзяць наперад, ногі адмерваюць густыя быстрыя шагі, рукі боруцца з гушчынёю кустоў. Мінуты ляцяць, а ёй здаецца, што яна ўсё яшчэ на месцы. Хутчэй, хутчэй' Не паддацца гушчару кустоў, ня ўпасьці стомленай сярод іх, выбрацца на той, на заходні бок роднае зямлі! А кусты ўсё цягнуцца, як нейкія гігантычныя цянёты, і блутаецца ў іх дзяўчына, бы тая рыбка...

VI.

Горача было Настульцы, душна. Доўга ішла яна сярод поўнае цемры, сама няведаючы ў якім кірунку. Здавалася, што ўсё на захад. А дождж то слабеў крыху, то ізноў бушаваў, заліваючы ўсё, як вокам кінуць, нелітасьціва.

Нарэшце кусты скончыліся. Пад нагамі шарахціць сёлетняя пожня. Праз колькі загонаў, якія ўпоперак перарэзала Настулька, аказалася нейкая палявая дарожка. Значыцца і людзі недзе тут павінны быць не далёка.

Праз якую мо' гадзіну хады, заблішчаў агоньчык. Даволі вялікае сяло. Стук у асьветленае лямпаю вакно. Аказалася, што гэта была кватэра вясковага настаўніка, з якім разам жыла яго маці. Настаўнікам быў Андрэй Варановіч, беларус, колішні прыяцель Настульчынага бацькі, з якім разам прабывалі на вялікай вайне. Пашэнціла Настульцы дый годзі. Настаўнікава маці дала ёй пераапрануцца ў сваю старую адзежу. Настулька даведалася, што яна зусім зьбілася з дарогі, ідучы ўвесь час управа і шчасьце яшчэ што не завярнулася назад на ўсход.

Варановіч вельмі быў рад, даведаўшыся, што яна дачка яго старога прыяцеля з часоў ваеннае нядолі Яе напаілі гарачаю гарбатаю. Мала што яна пасьпела расказаць аб сваіх прыгодах, а больш аб бядзе ў бацькавай хаце.

— Нічога, не да чужых вы ў госьці заблудзілі,—пацяшаў Настульку Варановіч,—адпачынеце ў нас, а там і дадому дабярэцеся. А заўтра ў нас маленечкае сьвята: мяне перакідаюць на службу ў Пазнаншчыну, не падабаецца камусьці, што не памагаю закладаць розных „*Кулэк млодзежы*“ ды „*Стшэльцаў*“, а шмат працаваў у закладзеным тут коопэратыве, які вядуць нашыя беларусы, вось і пераводзяць мяне. А коопэратары тутэйшыя пастанавілі ўладзіць супольны абед на разьвітаньне са мною, увечары будзе прадстаўленьне; у пару вы якраз трапілі сюды...

— Дзіўна, як гэта вам удалося тут быць настаўнікам дасюль? — заўважыла Настулька, — у нашай вёсцы іх цэлых чатыры былых настаўнікаў і ніводзін ня служыць, усе аруць дзядоўскія загоны.

— Я неяк адразу зачапіўся, — адказаў Варановіч,—калі яшчэ можна было, езьдзіў на курсы летам, не ангажаваўся ў беларускую палітыку і гэтак вось трымаўся.

— Ну, вам дык не бяда. А ў Пазнаншчыне можа і спакайней будзе служыць.

— Што-ж, калі чужына?...

— Усюды для нас чужына, — падхапіла

(Даканчаньне на 4-ой стар.).

